Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б і аблвыканкома.

Год выдання другі.

№ 39 (108)
СУБОТА
17
ЛЮТАГА
1940 г.

Цана 10 капеек

## АПЕРЗВОДКА ШТАБА ЛЕНІНГРАДСКАЙ ВАЕННАЙ АКРУГІ

На працягу 15 лютага на Карэльскім перашэйку прадаўжалі развівацца паспяховыя дзеянні нашых войск. Праціўнік, кідаючы зброю і ваеннае снаражэнне, несучы вялікія страты, адыходзіць у тыл. Нашы войскі падышлі да станцыі **Кямяра**.

За 15 лютага нашымі войскамі занята 53 абарончых умацаваных пункты, з іх 21 жалезабетоннае артылерыйскае збудаванне.

На астатніх участках фронта на працягу 15 лютага адбываліся пошукі разведчыкаў і ў радзе раёнаў сутычкі пяхотных часцей.

Наша авіяцыя вяла паспяховыя дзеянні супроць войск праціўніка і яго ваенных аб'ектаў. У завязаўшыхся паветраных баях збіта 6 самалётаў праціўніка.

# ВЫЛУЧЭННЕ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНЫХ СОВЕТАЎ СССР і БССР

### КАЛЕКТЫВАМ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ ПРАДЗІЛЬНА-ТКАЦКАЙ ФАБРЫКІ № 18 ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Кавалёў Міхаіл Пракоф'евіч

### і КАНДЫДАТАМ у ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

## Цанава Лаўрэнцій Фаміч

*(На сходзе прысутнічала 200 чалавек)*

Клуб прадзільна-ткацкай фабрыкі № 18 перапоўнен. Ткачы, прадзільшчыкі, шпуляркі, інжынеры і служачыя прышлі сюды, каб вылучыць сваіх лепшых людзей кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўных Советаў СССР і БССР.

З вялікай увагай слухалі прысутныя яркую прамову галоўнага інжынера фабрыкі Клаўдзіі Якаўлеўны Захаравай.

— Ад імені нашага калектыва, — гаворыць яна, — я прапаную вылучыць кандыдатам ў Совет Саюза Вярхоўнага Совета СССР вернага сына большэвіцкай партыі, выхаванца слаўнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, баявога камандарма Міхаіла Пракоф'евіча Кавалёва. Тав. Кавалёў асабіста кіраваў баявымі дзеяннямі Чырвонай Арміі па вызваленню Заходняй Беларусі ад уціску польскіх паноў. Ён з чэсцю выканаў адказнае заданне партыі і ўрада. За баявыя заслугі перад радзімай тав. Кавалёў узнагароджан 3 ордэнамі СССР.

Прапанову тав. Захаравай горача падтрымаў рабочы тав. Амельчанко.

Пад бурныя апладысменты і прывітальныя воклічы ў часць комуністычнай партыі, непераможнай Чырвонай Арміі прымаецца пастанова:

– Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па Беластоцкай выбарчай акрузе № 597 старога большэвіка Міхаіла Пракоф'евіча Кавалёва, тройчы ордэнаносца, камандарма 2-га ранга. Прасіць тав. Кавалёва даць сваю згоду балатыравацца ў дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па Беластоцкай выбарчай акрузе № 597.

Па прапанове шпуляркі тав. Зіневіч калектыў рабочых і служачых фабрыкі аднадушна вылучыў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР адданага большэвіка, праявіўшага сябе у барацьбе з ворагамі народа, дастойнага сына радзімы Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР Лаўрэнція Фаміча Цанава, грузіна, выхадца з сялян, члена ВКП(б) з 1920 года, члена ЦК КП(б)Б.

Сход рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых фабрыкі звярнуўся да таварыша Цанава з просьбай даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР па Цэнтральнай выбарчай акрузе № 353 гор. Беластока.

### НА СХОДЗЕ РАБОЧЫХ, РАБОТНІЦ, ІНЖЫНЕРНА-ТЭХНІЧНАГА ПЕРСАНАЛА І СЛУЖАЧЫХ 3 ТЭКСТЫЛЬНАГА КАМБІНАТА ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Кавалёў Міхаіл Пракоф'евіч

### І КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

## Гершман Грыгорый Майсеевіч

*(На сходзе прысутнічала 650 чалавек)*

Ткачы, прадзільшчыкі, інжынеры, тэхнікі і служачыя 3 тэкстыльнага камбіната сабраліся ўчора ў прадзільным цэху на агульны сход, прысвечаны выбарам у Вярхоўныя Советы СССР і БССР.

Сход адкрыў дырэктар камбіната тав. Юшкевіч. Слова прадстаўляецца рабочаму апаратуры тав. Барысевічу Івану Аляксандравічу.

— Я прапаную, — гаворыць тав. Барысевіч, — вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР камандаючага войскамі Беларускай Асобай Ваеннай Акругі, які камандаваў дзеючай Чырвонай Арміяй у час вызвалення народаў Заходняй Беларусі ад уціску польскіх паноў, тав. Кавалёва Міхаіла Пракоф'евіча. Тав. Кавалёў удзельнічаў на многіх франтах грамадзянскай вайны, тройчы ордэнаносец, кандыдат у члены ЦК ВКП(б) і член бюро ЦК КП(б)Б.

Горача падтрымаў кандыдатуру тав. Кавалёва ткач Каліноўскі.

— Я прама скажу, — гаворыць ён, — вялікая часць для нас вылучыць кандыдатам у дэпутаты такога дастойнага чалавека, як тав. Кавалёў. Тав. Кавалёў быў у нас на камбінаце. Ён гутарыў з намі, радавымі ткачамі, і я пераканаўся, што яго сэрца належыць рабочаму класу.

Сход прыняў пастанову, у якой вылучае тав. Кавалёва Міхаіла Пракоф'евіча кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР.

Слова атрымлівае намеснік старшыні фабкома тав. Міхайлоўскі Пётр Вікенцьевіч.

— Усе мы добра ведаем, — сказаў тав. Міхайлоўскі, — кіраўніка беластоцкіх большэвікоў, сакратара гаркома партыі тав. Гершмана. Сын рабочага-шаўца і сам рабочы, тав. Гершман з'яўляецца верным сынам нашай партыі, працоўнага народа. Я прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Гершмана Грыгорыя Майсеевича.

Слова прадастаўляецца тав. Гершману, які падрабязна расказвае сваю аўтабіяграфію і горача дзякуе рабочых за аказанае давер'е. Ен абяцае аддаць усе свае сілы служэнню народа.

Кандыдатуру тав. Гершмана горача падтрымалі работніца —Марыя Яновіч і намеснік старшыні абласнога камітэта саюза шарсцянікаў тав. Пырко.

Сход аднадушна прыняў пастанову, у якой вылучае кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Гершмана Грыгорыя Майсеевіча, 1904 года нараджэння, член ВКП(б) і просіць тав. Гершмана даць згоду балатыравацца па Фабрычнай выбарчай акрузе № 350.

На гэтым-жа сходзе выбрана 19 чалавек на акруговы прадвыбарчы сход.

### АГУЛЬНАГАРАДСКІМ СХОДАМ СЛУЖАЧЫХ ДЗЯРЖУСТАНОЎ Г. ЛОМЖЫ ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Ігаеў Семён Сцепанавіч

*(На сходзе прысутнічала 500 чалавек)*

З небывалым уздымам прайшоў сход служачых дзяржустаноў г. Ломжы. Зал гарадскога кіно-тэатра ледзь змясціў з'явіўшыхся на сход.

Горача была сустрэта прапанова тав. Краўчанка аб жаданні ўсіх прысутных мець сваімі першымі кандыдатамі вялікага Сталіна і яго баявых саратнікаў таварышоў Молатава і Варашылава.

— У наш народны соцыялістычны парламент, — гаворыць дэпутат Народнага Сабрання тав. Стралецкая — мы павінны паслаць лепшых сыноў і дочак народа, да канца адданых справе працоўных. Я прапаную вылучыць нашым кандыдатам Сёмена Сцепанавіча Ігаева, вернага сына працоўнага народа, стойкага большэвіка, першага сакратара Беластоцкага абкома КП(б)Б.

Прапанову тав. Стралецкай горача падтрымалі тт. Дамброўскі, Зарэмба і іншыя.

Сход у сваім рашэнні запісаў:

«Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па Ломжынскай выбарчай акрузе № 599 ад служачых дзяржустаноў г. Ломжы Ігаева Семёна Сцепанавіча, па нацыянальнасці мардвіна, 1904 года нараджэння, члена ВКП(б), сакратара Беластоцкага абкома КП(б)Б, ордэнаносца, дэпутата Вярхоўнага Совета БССР, пражываючага ў г. Беластоку.

Прасіць тав. Ігаева С. С. даць сваю згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР па Ломжынскай выбарчай акрузе №599».

Кандыдатура тав. Ігаева была таксама вылучана на агульных сходах сялян Візненскага, Радзілаўскага і Штукінскага сельсоветаў, Едвабнаўскага раёна, на якіх прысутнічала 1.700 чалавек. На ўсіх сходах сяляне аднадушна рашылі вылучыць тав. Ігаева С. С. кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР ад Ломжынскай выбарчай акругі № 599.

### СХОДАМ СЯЛЯН м. МСЦІБАВА, ВАЛКАВЫСКАГА РАЁНА, КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР ВЫЛУЧАН

## Сеўко Павел Антонавіч

*(На сходзе прысутнічала 500 чалавек)*

15 лютага адбыўся многалюдны сход сялян м. Мсцібава, Валкавыскага раёна. Задоўга да схода памяшканне НСШ перапоўнілася выбаршчыкамі. Сюды сабраліся старыкі і моладзь, жанчыны і мужчыны. Яны прышлі вырашаць пытанне вялікай дзяржаўнай важнасці — вылучыць кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР.

— У дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, — гаворыць тав. Буслюк, — мы павінны падабраць лепшых людзей, да канца адданых соцыялістычнай радзіме. Я спадзяюся, што выкажу думку ўсіх прысутных, назваўшы нашым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР тав. Сеўко Паўла Антонавіча. Тав. Сеўко ўсе свае сілы аддае справе працоўнага народа. Ён з чэсцю апраўдае наша давер'е.

Прапанову тав. Буслюка горача падтрымалі таварышыДанько, Несцер, Сідаровіч і іншыя выступаўшыя на сходзе.

У рэзалюцыі сход запісаў:

«Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па Валкавыскай выбарчай акрузе № 601 ад сялян м. Мсцібава тав. Сеўко Паўла Антонавіча, старшыню Мсцібаўскага выканкома, селяніна, беларуса, 1907 года нараджэння, пражываючага ў м. Мсцібава.

Прасіць тав. Сеўко П. А. даць сваю згоду балатыравацца ў дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па Валкавыскай выбарчай акрузе № 601.

* * *

Кандыдатуру тав. Сеўко падтрымаў сход рабочых Валкавыскага чыгуначнага вузла, на якім прысутнічала 1000 чалавек.

### АГУЛЬНЫМ СХОДАМ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ ЧЫГУНАЧНАГА ВУЗЛА ГОР. ГРОДНА ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

## Радзевіч Міхаіл Вікенцьевіч

*(На сходзе прысутнічала 360 чалавек)*

Пасля работы рабочыя і служачыя чыгуначнага вузла гор. Гродна прышлі на сход, прысвечаны вылучэнню кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР. Слова для прапановы атрымаў рабочы дэпо тав. Бертэль.

— Я прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Радзевіча Міхаіла Вікенцьевіча. Мы ўсе ведаем яго, як лепшага машыніста Гродненскага чыгуначнага дэпо. Сваімі чэснымі адносінамі да працы ён заваяваў аўтарытэт і павагу ўсіх рабочых дэпо.

Тав. Радзевіч 26 год працуе на транспарце. Свой вопыт работы ён перадаў не аднаму памочніку і качагару. Паравозная брыгада на чале з тав. Радзевічам з чэсцю выконвае ўзятыя на сябе абавязацельствы — точна па графіку вадзіць паязды.

Выступіўшыя машыніст тав. Рыбакоў і майстар паравознага дэпо тав. Талстаухаў заявілі, што яны ведаюць тав. Радзевіча, як чэснага, адданага сваёй справе рабочага і заклікалі ўсіх прысутных падтрымаць кандыдатуру тав. Радзевіча.

Сход аднадушна рашыў вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Радзевіча Міхаіла Вікенцьевіча.

### НА АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ НАСТАЎНІКАЎ ПАЧАТКОВЫХ І СЯРЭДНІХ ШКОЛ гор. ГРОДНА ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ у ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Пестрак Філіп Семёнавіч

*(На сходзе прысутнічала 350 чалавек)*

У зале гарадскога кінотэатра сабраліся настаўнікі пачатковых і сярэдніх школ гор. Гродна, каб вылучыць свайго пасланніка ў вышэйшы орган краіны соцыялізма—Вярхоўны Совет СССР.

Сход адкрывае старшыня гарадскога камітэта саюза пачатковых і сярэдніх школ гор. Гродна, тав. Гадаскін.

Слова атрымлівае дырэктар школы № 11 тав. **Лосеў**.

— Нам патрэбна выбраць у дэпутаты такога чалавека, які змагаўся-б за інтарэсы працоўнага народа, быў-бы верным сынам сваёй соцыялістычнай радзімы. Я прапаную вылучыць кандыдатуру беларускага паэта тав. **Пестрака Філіпа Семёнавіча**.

Біяграфія тав. Пестрака—гэта кавалак жыцця ўсяго працоўнага беларускага народа, які стагнаў пад нечалавечным прыгнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Тав. Пестрак, сын селяніна, рана пазнаў цяжкае жыццё працоўнага народа. З самых маладых год ён уключыўся ў актыўную барацьбу супроць памешчыкаў і капіталістаў. 11 год ён правёў у турмах і казематах былой Польшчы, за тое, што ён падымаў працоўны народ на барацьбу супроць сваіх векавечных эксплаататараў.

Народы Заходняй Беларусі ўжо аднойчы аказалі давер'е тав. Пестраку і выбралі яго ў дэпутаты Народнага Сабрання Заходняй Беларусі а затым—і членам Паўнамоцнай Камісіі.

Дырэктар польскай сярэдняй школы тав. Труфанаў, падтрымліваючы вылучаную кандыдатуру тав. Пестрака, заявіў:

— Я лічу, што гэта самая падыходзячая кандыдатура. Тав. Пестрак з'яўляецца ўсім вядомым паэтам, які сваімі вершамі і сваёй актыўнай барацьбой падымаў працоўных на барацьбу супроць прыгнятальнікаў.

Агульны сход пастанавіў паслаць тэлеграму тав. Пестраку, які зараз знаходзіцца на адпачынку, з просьбай даць сваю згоду балатыравацца па Гродненскай акрузе № 600 па выбарах у Совет Саюза.

### РАБОЧЫМІ І СЛУЖАЧЫМІ ОРЛЯНСКАГА КАФЕЛЬНАГА ЗАВОДА ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР

## Дз'ячук Марыя Іванаўна

*(На сходзе прысутнічала 120 чалавек).*

15 лютага адбыўся агульны сход рабочых і служачых Орлянскага кафельнага завода, прысвечаны вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР.

Мы ганарымся тым, —заявіў на сходзе рабочы-кафельшчык Даніла Савіцкі, — што можам свабодна вылучаць у соцыялістычны парламент сваіх прадстаўнікоў. Гэтыя правы, гэтую свабоду нам дала большэвіцкая партыя і вялікі Сталін. Вось чаму я называю першымі нашымі кандыдатамі таварыша **Сталіна** і главу Совецкага ўрада таварыша **Молатава**.

Я таксама прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР работніцу-тэкстыльшчыцу Марыю Іванаўну Дз'ячук, беларуску па нацыянальнасці.

Мы ведаем тав. Дз'ячук, як адданую справе працоўных дачку беларускага народа, якая ў гады панскага іга ўздымала свой голас пратэсту супроць здзекаў над працоўнымі.

Прапанову тав. Савіцнага падтрымалі рабочыя завода тт. П. Качынскі і М. Тафілоўскі.

У прынятай рэзалюцыі гаворыцца:

„Вылучыць кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР па Бельскай выбарчай акрузе № 598 ад рабочых і служачых кафельнага завода работніцу-тэкстыльшчыцу тав. Дз'ячук Марыю Іванаўну, беларуску, 1902 года нараджэння, беспартыйную, якая зараз працуе загадчыкам аддзела скарг Беластоцкага аблвыканкома. Прасіць тав. Дз'ячук даць згоду балатыравацца па гэтай выбарчай акрузе.

### СХОДАМ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ ГРОДНЕНСКАЙ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ ВЫЛУЧАН КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

## Пазднякоў Іван Барысавіч

*(На сходзе прысутнічала 140 чалавек)*

На высокім палітычным узроўні прайшоў сход рабочых і служачых гродненскай электрастанцыі па вылучэнню кандыдатаў у Вярхоўны Совет БССР па 369 выбарчай акрузе.

Прысутныя горача сустрэлі прапанову тав. Бугрова аб вылучэнні кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР тав. Пазднякова Івана Барысавіча, першага сакратара Гродненскага гаркома КП(б)Б.

Тав. Пазднякоў — сын беднага селяніна, з 11 год пачаў сваю працоўную дзейнасць у якасці слесара паравоза-вагонарамонтнага завода. Многа год ён працуе на адказнай партыйнай рабоце. Зараз кіруе Гродненскай партарганізацыяй.

Агульны сход пастанавіў вылучыць тав. Пазднякова кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

